# УЛАДЗІМІР ДЗЮБА

# КАРАНІ БЛІСКАВІЦЫ



ВЕРШЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986



* * *

Як помню сябе —
Спачатку
Матчыну песню спяваў я.
Дужэў і дужэў мой голас.
І я ў свае сілы верыў
І ў цяжкі пачатак дарогі.
Таму не ведаю нават,
Калі,
На якім павароце
Песню згадаў другую...
Ужо не матчыну.
Толькі
Ніколечкі не здзівіўся,
Не разгубіўся,
Бо раптам
Я зразумеў,
Што ў песні
Ад кожнага хлопца —

Па слову,
Ад кожнай дзяўчыны —
Па ноце.
Усіх яна нас яднае,
Песня маёй маладосці.
Вось і дачка сягоння
Мне не дае забыцца,
Як падрастаў я з гадамі,
Як набываў тыя рысы,
Якія да твару мужчыну.
Калі б інакш,
То ці варта
Было б гаварыць аб нашчадках —
Аб роднай дачцэ
І ўнуках.
Ды бачу шумлівае дрэва...
Няхай на ім яшчэ гола,
Яно і бязлістае цешыць.
А па ствалу калі стукне
Хтосьці за так,
Выпадкова,—
Пачулі б тады,
Як спявае
Яно,
Радаслоўнае,
Шчыра:
Каля камля —
Невыразна,
А ў кроне —
Арганным сугуччам...

Дзіўна,
Ды грэх жа таіцца —
Спяваецца трэцяя песнь.
А ў ёй —
Даччыны напевы,
Настрой дачкі і ўлюбёнасць.
І хоць тры песні прапета —
Яшчэ так мала пражыта...
...А дзеці ўсё падрастаюць.
І ў іх —
Чую! —
Матчыны песні.
Памножаныя на здабыткі,
На клопаты і трывогі,
На боль і заўчасныя страты.



Старэнькая хатка.
Забытыя цацкі.
Гляджу я на шлях:
Ці няма майго бацькі?
З вайны татка прыйдзе
Вясёлы ці строгі?
Які ж ты чаканы,
Дзень Перамогі!
І маці абніме

Бязвусы мужчына.
Адшпіліць з грудзей
Медалі ён для сына.
У сына ад шчасця
Падкосяцца ногі.
Які ж ты ўрачысты,
Дзень Перамогі!
Бацьку б убачыць свайго
Хоць аднойчы.
Каб пабач.
Жывога.
На ўласныя вочы.
Хоць праўду адрозніць
Магу ад няпраўды,
А цяжка,
Хоць плач,
Без бацькоўскай парады.

* * *

Павяжуць бабы хатулі —
Здароў былі!
І выберуцца ў шлях з сяла
Шчэ да святла.
Пакуль не высахла сляза,
Пакуль раса.
Пакуль і рынак не скупы —

Прадай-купі!
Каб збыць і масла, і тварог —
Што прыбярог.
Каб вёўся з лёгкае рукі
Рубель які.
У школу сыну ў першы клас
Ісці якраз.
Як не набыць —
Хоць голлю голь —
Буквар і соль.
Ах, колькі выспелілі мар
Соль і буквар!

* * *

Я не помню ўжо,
Калі там быў
І калі ваду
З крыніцы піў.
Толькі помню:
Сож і —
Ні душы.
І збягаю я
З крутой шашы.
Крок,
Другі —
І вось я пад «грыбком»,

Дзе крынічным
Вее халадком.
І цурчыць гаючая вада.
Берасцянка ўзбоч —
Замест вядра.
Зачарпні крынічнае
І пі!
Пі —
Калі ты стомлены,
Слабы.
Зрок яснее
Ад яе нібы.
Ну, а злы —
Тады,
Браток,
Бяда:
Страціць чары
Дзіўная вада.

* * *

Дубы раслі на той дзялянцы.
Іх там няма.
На месцы тым
Сасонкам вольна маладым.
Іх мы садзілі,
Падшыванцы.

Іду сабе па сасняку,
І коле шыю
Мне ігліца.
Цераз гушчар мне не прабіцца,
Цяпер ужо не хлапчуку.

Хоць тое мудрасці яшчэ!
Высокі бор і ўцешны воку.
А ён —
Ні-ні глядзець звысоку.
Жыццё пушчанскае цячэ.

Зіма прыходзіць будзе ў бор
І лютаваць у ім,
Не дзесьці...

Маім сасонкам
На дасвецці
Пяе пра вечнае
Прастор.

* * *

Ці помніш,
Бор мой,
Ты,
Як я з сябрамі гойсаў?

Зіма.
І схіл круты.
Лыжня —
Аж да нябёсаў!

Ужо не будзе трас
Такіх для загартоўкі,
Дзе верыў кожны з нас,
Што дужы ён і лоўкі.

Дзе ўсе твае сябры
Былі перад табою.
Дзе лепей не хітры,
Калі баішся бою.

Успыхнеш да пары,
Нібыта бліскавіца.
...Для іншых у бары
Лыжнёю схіл іскрыцца.



* * *

Раслі на градках мак,
Цыбуля,
Кроп
І морква.
Спазналі мы на смак,
Што соладка,
Што —
Горка.
Палолі буракі
І верылі ўсім класам,
Што школьныя званкі
Не ацішэюць з часам.
Ужо ж!
Ад градак тых
Лёс так убок паверне.
...Шукаю ў днях крутых
Хоць макавае зерне.



Наiўнасцi
Празрыстае крыло,
Якiя высi
Ты цяпер штурмуеш
I як далёка
Праз блакiт вяслуеш?
Маёй ты
Светлай сутнасцю было...
Ты ратавала
Ад тугi мяне
I пэўнасцi дало,
Нiбы патолi,
Што моцны буду я
На родным полi,
I ўсё, што будзе,
Сэрца не мiне.



Раптоўнай радасцю натхняйся.
Бязмежным
Смагу наталi.
Будзь па-за часам!
Будзь у часе!
У небе будзь i на зямлi.

Прымерся так,
Прыгледзься гэтак
І па-дарасламу разваж,
Што родны выспеліць палетак
Не толькі хлеб надзённы наш.
І ўбачыш —
Зоры чуйна спеюць,
І як не слепіць золкаў медзь.
Цябе такога зразумеюць,
Бо ты ўсіх станеш разумець.



Жнівень.
І барвы.
Мужчыны складаюць стог —
Упяцёх.
Знізу —
Рыгор,
Кузьма,
Пятро
І Цімох.
Зверху —
Атрох.

Вырай.
Зноў барвы.
Спорна вершыцца стог —

Учатырох.
Знізу —
Кузьма,
Пятро
І Цімох.
Зверху —
Атрох.

Сёння —
То ж барваў!
Абглядаюць мужчыны стог —
Утрох.
Знізу —
Кузьма
І Цімох
Зверху —
Атрох.

Ах, сена якое —
Заварвай хоць чаї!
Луг —
У стагах.
Дык спаўна ж налівай!
Першую —
За Пятра.
Мала паспеў убачыць дабра.
Як прыйшоў з партызан —
Занядужаў ад ран.
І франтавік Рыгор
Зусім малады памёр.

Ці ж ёсць дзе тады той бог?
Не ўбачыш —
Хоць вунь які стог!

...Дадому з далёкіх дарог
Кліча бацькоўскі парог.

* * *

У высях сочыцца дымок.
Маланкі свецяцца трывожна.
Імжаць дажджы.
Намокла пожня.
І я да нітачкі прамок.
Увесь,
Як ёсць,
Перахварэў
Душой —
Пачуў нібыта крылы.
І ўзнімуць незямныя сілы
Над кронамі асенніх дрэў.
Убачу вёску,
Поле,
Луг,
Вядзерца там,
За пуняй дзесьці.
З ім бульбу я садзіў пад плуг.

Скапаць скапаў да завірух.
Таму і просіць высяў дух.
Таму і моліць высяў дух.
Жадае зорных высяў дух.
Мне крыж зямны пад імі несці.



Лунае бусел над ракой.
Рака паблісквае луской.
Ні сцен кватэры гарадской.
Ні штурханіны той людской.
Спакой.
Тут толькі неба ды зямля.
І светлы дзень,
І доўгі шлях...
І грудка солі ў рукзаку.
Конь пысай ткнецца мне ў руку.
І фыркне.
І — узыдуць зрэнкі.
Я ў іх —
Зялёны і маленькі.



* * *

Люблю я восеньскія знакі,
Калі барвовыя сады.
І луг,
Ягоны покрыў мяккі,
Не прыхапілі халады.
Калі спружыняць пад нагамі
Ля цёплай завадзі імхі.
І неба шырыцца над намі,
Як заімглёныя шляхі.
Да неба —
Лес.
Гамоняць шаты.
Мне той гамонкі блізкі сэнс:
Бы звон,
У беларусаў хаты.
Яшчэ б!
Навокал гэткі лес.



На дрэвах не відаць
Лісткоў і павуцінак.
Зямля, нібыта пляц,—
Ні траўкі,
Ні сцяблінак.
Настрой ва ўсім такі,
Што недзе штосьці рвецца.
Над вёскаю —
Дымкі.
У маці ные сэрца.
На скроні б'ецца пульс
Дрыготкі і няпэўны.
Нібы змяіны ўкус,
Укол унутрывенны.
Працягвацца жыццё
На ўколах не жадае.
Не прыйдзе пачуццё,
Што маці маладая.
І ўжо на ёй,
На ёй —
Лісткі і павуцінкі.
Так доўга над зямлёй
Таўкуцца аблачынкі.
Эх, разбрысціся б ім
У дзень,
Вясновы самы!
Убачыць свет не злым
Умеюць толькі мамы.



У трыццаць год сваіх сяброў
І я паразгубляў па свеце.
Занесла б хоць ад іх вятроў.
— Адкуль,—
Пытаюся я,—
Вецер?
Заўжды,
Вандроўнаму,
Яму
У хаце знойдзецца прытулак.
Падкіну ў печ яловых цурак,
І будзем грэцца ўсю зіму.



Нітуюцца сляды
Ўсцяж снежнае пярыны.
Касы —
Адкуль?
Куды?
З завейнае сябрыны.
Што хмельнае віно,
Душу завея лечыць.
І хоць на небе месяц,
А свету не відно.

І гэты самы міг
Так непрыкметна пройдзе.
І ўцешна без адліг
І ў сэрцы,
І ў прыродзе.



Як зразумець такое
Няведанне людское,
Што вунь,
У лесе,
Елка,
Пад елкаю —
Пасцелька?
З імху,
Травы,
Іглінцы.
Для воўка,
Для лісіцы.
Дзе летам скрозь суніцы.
Дзе ўгледзіш ты сароку.
Крычыць яна здалёку,
Што ссеклі елку-ёлку.
Што з ёлкай той багацце
На навагоднім свяце.

І будзе дзіўна толькі,
Што колюцца іголкі,
І ў ёлчыну пасцелю
Не ляжаш нават з хмелю.



Помню Новы год,
Красуню-ёлку.
Школьны вартаўнік яе прывёз
З лесу заінелага,
Здалёку
І спытаў:
— А хто ў нас Дзед Мароз?
І хоць старасць не ламала косці,
За плячмі дарог было няшмат,
Бараду і кій прынёс мне хтосьці,
І кажух мне быў да самых пят.
Будзь,
Маўляў,
Сапраўдным,
Адмысловым!
Я ля ёлкі школьнай шчыраваў.
З Новым годам
І са шчасцем новым
Кожнага сардэчна віншаваў.
Карагод вадзіў і ўсё смяяўся,

І спаважна гладзіў бараду,
І шукаў снягурку,
І баяўся,
Што сваёй унучкі не знайду.
Да мяне прыйшла мая снягурка.
Быў ужо тады вайскоўцам я.
Неяк разам уздыхнула гулка
Дружная салдацкая сям'я.
Як і не было ніякай скрухі.
І ад шчасця кожны аж падрос.
Жартавалі хлопцы:
— Завірухі
Ды завеі любіць Дзед Мароз!
Завірухі...
Наляцяць аднекуль.
Ад завеяў —
Скроні ў сівізне.
Ну, а смерч вайны —
Злы сівер веку
Хай у барадзе маёй засне.



У снежні,
У снежні,
У снежні
Снягамі мой край замяце —

Бярозы,
Таполі,
Чарэшні,
Затоку пры ціхай рацэ.
У студзені,
Студзені,
Студзені
На ўвесь навагодні прасцяг
У свяце,
У клопатным будні
На працы пабыць і ў гасцях.
У лютым,
У лютым,
У лютым
Аўса ты падсыплеш каню.
І ў пограбе,
Сіверам скутым,
З надзеяй асочыш сяўню.
Пабудзеш у засеку дзесьці
І ўжо,
Як ніколі ў жыцці,
Снег з ботаў захочаш абтрэсці
І ў хату з марозу зайсці!



Паўночны вецер і паўднёвы,
З гаркавінкай палын-травы,
Наўздзіў разумныя галовы,
І тыя выветрылі вы.
Я не хачу такога лёсу,
Хоць і жыву на скразняках.
Каля зацемненага плёсу,
Пры адзічэлых ветраках.
Калі ў вачах трымцяць чароты,
Калі пакутуе душа.
Калі спытацца мусіш,
Хто ты
Цяпер і кім ты быў спярша.
Магчыма,
Да цябе хто з позвай?
З чым ты да ўсіх?
З дабром ці злом?
Паўднёвы,
Дух не расхалоджвай!
Паўночны,
Не ваюй з цяплом!



Ёсць у вясны свае тылы
І свой пярэдні край.
Дрэў расчахлёныя ствалы
Не маскіруе гай.
Ад лесу блізка да раллі.
На полі —
Трактар,
Плуг.
Зноў прыляцелі журавлі,
Над вёскай робяць круг.
І сок бярозавы звініць
Па донцу гладыша.
І сполахамі навальніц
Спатоліцца душа.



Сакавіцкі перазвон
Капяжоў, і слоў,
І гукаў.
Рух прыроды і малюнкаў.
Прадчуванне,
Як азон.
І даўно не спіць раўчук.
Прачынаюцца пупышкі.

Як сярэбраныя,
  Пырскі —
Міма пальцаў,
Міма рук.
Промні сонечныя,
Бы
Саджанцы ў зямлю,
Уторквай.
Замацоўвай іх пад кроквай
І рыхтуйся да сяўбы.
Перальюцца спакваля
Промні сонца ў промні хлеба.
Там,
Дзе спрэс сінее неба,—
Спрэс рунее і зямля.



Экспрэс пранёсся ў край лясны.
Зялёны —
Колеру вясны.
Перада мной і скрозь —
За мной —
Вясной запахла ўсё,
Вясной.
Прасторна,
Звонка ў сінізне

Шпачына-жораўнай вясне!
І развінае праз вясну
Плуг крутабокі баразну!
І не адзін паэта згас,
Вясна, у твой чароўны час.

* * *

Люблю я змены ў краявідзе —
Калі з гусінага пяра
Пара вады вялікай сыдзе
І прыйдзе жніўная пара.

* *

Над акном за ліштвой
Весяліцца сінічка.
У сінічкі там свой
Кут —
Гняздо-рукавічка.
У яе там свае
Камячкі-птушаняты.
Яна рана ўстае,
І не даць гэткай рады.

То ж увішна яна
Ў наваколлі лятае.
І адна ды адна —
Тая ўжо ці не тая?
Мошку зловіць —
Хутчэй
Пырх да вокнаў з ліштвою.
Ні спакою начэй.
А ні дня ёй —
Спакою.
І радней мне яшчэ
Ў гэткай блізкай патрэбе.
Лепш сініца ў руцэ,
Чымся жораў у небе.
Я з надзеяй сачу
За стараннем сініцы.
Звон крыла,
І ўваччу —
Карані бліскавіцы.

* * *

Такі ў жанчын,
Відаць,
Характар:
Грыбы шукаючы ў бары,

На ўзлессі
Стануць слухаць трактар,
Ягоны рокат
З-за гары.
І мо падумаюць між іншым,
Што хлопцам,
Бач,
Не да грыбоў?
Як пахне
Узараным ржышчам
Пасля стагоў,
Пасля снапоў!
І столькі ў тым
Сялянскай праўды!
І столькі
Яснасці зямной!
О край!
Дзе нават будні —
Святы!
Дзе ўсцяж палёў лясы —
Сцяной!



* * *

Калі ў журбоце вы,
Удовы,
Калі не спіцца вам,
Салдаткі,
Мне так балюча,
Так трывожна
І неспакойна так за вас.
Бо вамі сшытыя абновы,
Ля вашых губ праменні-згадкі
І з болем змешаная радасць —
Мне не пабочныя зусім.
Хачу вас бачыць,
Гаманлівых,
І перасмешліва-гарэзных,
І самых мілых,
Самых слаўных...
Такі ён,
Роздум мой і сказ,—

Пра вашы клопаты на нівах,
Пра смутак ваш у позвах-песнях,
Пра горкую слязу на ранах.
...І ўжо не страшны холад зім.



Шмат ён зведаў гнеўных слоў.
Гэткі боль у сэрцы —
Быццам
Толькі што муку малоў
Людзям,
Ну, і мусіў фрыцам.
Тых людзей тады ў ляску
Расстралялі —
Каб хто глянуў.
Сем мінула хлапчуку.
Хлеб насіў ён партызанам.
Ні слядоў,
Ні каляін.
Неруш.
Снег.
Хто вінаваты,
Што рабіў вайну ўсю млын,
Што млынар быў барадаты?
Ён пры сполахах зары
Азірнецца палахліва.

Быццам стогне хто ў бары,
І па сцежцы —
Мліва,
Мліва...



На Беларусі
Пры маці расла.
Было ёй пры маці лёгка.
Ды вось саквояж у дарогу ўзяла —
Ехала жонка.
Вяселле спраўлялі праменнай вясной —
Ведае тое старонка.
Напісаны мужавай адрас рукой —
Ехала жонка.
Людзей не здзівіў яе хуткі ад'езд,
І песні спяваліся звонка.
Старэнькая маці заплакала ўслед —
Ехала жонка.
Недзе Масква, і Растоў,
І Баку.
Дом мацярынскі далёка.
Так вось,
Паклаўшы руку пад шчаку,
Ехала жонка.
У Краснаводск цераз Каспій паром

Плыў пакрысе,
Нетаропка.
А недзе хлапчына салдацкім спаў сном —
Ехала жонка.
Кіцель назаўтра ён свой падшываў —
Тут і ўкалола іголка.
На момант салдат адарваўся ад спраў —
Ехала жонка.
Як цалаваліся ён і яна!
Дзяўчо і салдат бывалы.
Спявала ў салдацкай казарме зурна,
А ў Беларусі —
Цымбалы.

* * *

Звярнуў убок —
Шуміць лясок.
Тут,
Можа,
Чыйсьці ўток,
Выток?
Цяжкі і асцярожны крок,
І прыстраляны пляц сарок.
За ўзгоркам —
Восеньскі дымок.
Куды і ад каго я ўцёк?

А на гасцінцы —
Цок,
Цок,
Цок...
Няспешны,
Як відаць,
Яздок?
Мо чорт употай брыў здалёк?
На што ў нячысціка намёк?
Не разбудзіць каб гарадок
Буфетчыц,
Швачак,
Мацярок?
Ды што ні дзверы —
І замок,
І свой дымок, і свой грашок.
Ідзі да д'ябла,
Сатана.
Якая ў тым мая віна,
Што ёсць на свеце я,
Яна
І што яна зусім адна...
І, пэўна, не з пустой прычыны
Святло сыходзіць ад жанчыны?



* * *

Я на адну цябе малюся,
Хоць бачу ўсё цябе радзей.
Таму і б'ецца сэрца ў скрусе,
Што не збылося шмат надзей.
І ўжо не менее трывога,
І ў горле горычы камяк.
Ты не судзі мяне так строга.
Ты не судзі мяне ніяк.
Твайго суда я не баюся.
Хай іншых твой асудзіць суд,
Што я любіць цябе пазнюся,
Што гэта верх маіх пакут.



Трэба ўсё пачаць спачатку.
Загадаць сабе загадку.
Увайсці ў зялёны бор,
У якім цвіце чабор.
І пачуць —
Цурчыць крыніца,
Аж захочацца напіцца,
Каб прагнаць з душы ўсю смагу.
І спачыць...
На Млечным Шляху.

## ЗМЕСТ

Дзюба У.
Д 43 Карані бліскавіцы: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 38 с., іл.
10 к.
Уладзімір Дзюба вядомы чытачу паэтычнымі зборнікамі «Вуліцы без назваў» (1972) і «Кругазварот» (1977).
У новай кнізе ёсць вершы аб радзіме, аб жыцці аднавяскоўцаў, іхніх клопатах і радасцях. Вершы-ўспаміны пра дзяцінства асветлены фарбамі беларускай прыроды і непадробным пачуццём шчырасці.

Д $\frac{4702120200-001}{М 302(05)-86}$ 53—86

ББК 84Бел7
Бел 2

ВЛАДИМИР ИВАНОВИЧ ДЗЮБА

КОРНИ МОЛНИИ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк
Мастак Т. Д. Царова
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Карэктар К. А. Крукоўская

ІБ № 2411

Здадзена ў набор 28.05.85. Падп. да друку 28.10.85. АТ 05810. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 1,25. Ум. фарб.-адб. 1,38. Ул.-выд. арк. 1,22. Тыраж 2300 экз. Зак. 1502.
Цана 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.